# БЮЛЕТЭНЬ

Рэспубліканскага Камітэту Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон.
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг.-сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 6 | 25-га верасьня 1931 году | № 6



## ЗЬМЕСТ





## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых ЖС аб ходзе правядзеньня усесаюзнага конкурсу на лепшага старшага рабочага вядучай прафэсіі і рабочага-ударніка па жывёлагадоўчых саўгасах.

Заслухаўшы даклад культмасавага сэктару аб ходзе правядзеньня усесаюзнага конкурсу на лепшага старшага рабочага вядучай прафэсіі (старшы сьвінар, ст. даярка, ст. скотнік, ст. трактарыст, ст. рабочы і г. д.) і лепшага рабочага—ўдарніка прэзыдыум Рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС адзначае што:

1. Правядзеньне ўсесаюзнага конкурсу па жывёлагадоўчых саўгасах БССР ідзе надзвычайна марудна і зусім не адпавядае тым задачам, якія былі высунуты ЦК саюзу і пастановай прэзыдыуму Рэсп. кам. саюзу ад 25 ліпеня г. г.

2. Пераважная большасьць рабачкомаў саўгасаў недаацанілі гаспадарча-палітычнага значэньня конкурсу. Яны не разгарнулі належнай арганізацыйна-масавай і вытворчай работы на вакол задач пастаўленых конкурсам. У выніку чаго ня былі мабілізаваны шырокія масы ударнікаў, рабочых, работніц і спэцыялістаў і умовы конкурсу не даведзены да кожнага рабочага.

3. Рэалізацыя адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, ЦК КП(б) Б і СНК БССР аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі ні ў якой ступені ня было ўвязана з праводзімым конкурсам на лепшага старшага рабочага вядучых прафэсый і лепшага рабочага—ударніка.

4. Газэта „Сельгасрабочы Бел." таксама слаба ўключыўся ў праводзімы конкурс і з свайго боку не прыняла належных мер да мабілізацыі рабнасьценкораў, рабочых саўгасаў і асьвятленьня ходу праводзімага конкурсу.

Улічваючы тое, што канец тэрміну конкурса набліжаецца (лістапад месяц) і ў мэтах сапраўднага разгортваньня ра)

боты па лепшым правядзеньні конкурсу такімі тэмпамі, каб наш саюз быў адным у першых радох,—прэзыдыум Рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС пастанаўляе:

а) Прапанаваць рабачкомам заразжа разгарнуць шырокую масавую работу. Спэцыяльна па гэтым пытаньні правесьці зьлёты ўдарнікаў, сходы рабочых работніц і спэцыялістаў па кожным вытворчым вучастку (цэх, брыгада, сьвінарнік, скотны двор і г. д.). На гэтых сходах распрацаваць канкрэтныя апэрацыйныя пляны правядзеньня конкурсаў і зачытаць умовы конкурсу і сьпіс вызначаных прэмій.

б) Усю работу па конкурсе ўвязаць з рэалізацыяй адозвы партыі і ўраду і правадзімай праверкай калдагавароў. Уся ўвага па правядзеньні конкурсу павінна быць сканцэнтравана на задачах выкананьня і перавыкананьня прамфінплянаў (будаўніцтва, камплектаваньня стада, здача таварнай прадукцыі, вясеньняя сяўба, кармавая база, сацыяльна—бытавыя умовы рабочых і г. д.) і выяўленьне лепшых старшых рабочых вядучых прафэсый і рабочых ударнікаў, а таксама далейшага росту сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

в) Ва ўсіх саўгасах, дзе яшчэ няма, арганізаваць конкурсныя камісіі і распусьціць тыя, якія былі арганізаваны, але бяздзейнічаюць.

г) Правесьці зьлёты рабселькораў і рэдкалегій насьценгазэт, забясьпечыўшы праз іх шырокае асьвятленьне ў штодзённых саўгаскіх насьценгазэтах ход правадзімага конкурсу і папулярызацыю лепшых старшых рабочых вядучых прафэсый, ударнікаў і ўдарных брыгад і ганьбаваць лодыраў, п'яніц, прагульшчыкаў.

д) Абавязаць рабачкомы арганізаваць найбольш поўнае непарыўнае асьвятленьне ўсяго ходу конкурсу ў газэтах „Сельска-гаспадарчы Рабочы Беларусі“, „Сельско-хозяйственный Рабочий“ і „Социалистическое Земледелие“ па матар'ялах, у якіх будуць присуджацца конкурсныя прэміі.

е) Рабачкомам саўгасаў ня менш як адзін раз у дэкаду, на сваіх паседжаньнях з удзелам ударнікаў і рабочых заслухоўваць падрабязныя даклады аб ходзе конкурсу.

ж) Даручыць работнікам Рэсп. кам. саюзу, якія знаходзяцца ў саўгасах, а таксама і ўсім членам пленуму Рэсп. кам. прыняць самы актыўны ўдзел у правадзімым конкурсе і спэцыяльным лістом—1 раз у 5 дзён - інфармаваць прэзыдыум. Няпрысылка імі зьвестак будзе разглядацца як бязьдзейнічаньне і абгаварвацца на прэзыдыуме.

з) У зьвязку з тым, што прэзыдыум ЦК саюзу рашуча абавязаў Рэспубліканскі камітэт саюзу інфармаваць яго аб ходзе конкурсу ня менш трох разоў у месяц, прапанаваць усім рабачкомам прысылаць Рэспубліканскаму камітэту 10—20—30 чысла кожнага месяца падрабязныя матар'ялы аб ходзе конкурсу. У прысылаемых справаздачах павінны быць лічбамі паказаны канкрэтныя дасягненьні ў выкананьні прамфінплянаў па колькасных і якасных паказальніках, а таксама і лепшыя старшыя рабочыя вядучых прафэсый, ударнікі і ударныя брыгады з характарыстыкай на іх.

і) На кожным паседжаньні прэзыдыуму Рэспубліканснага камітэту заслухоўваць даклады ня менш трох рабачкомаў аб іх рабоце па правядзеньні конкурсу.

к) Для кіраўніцтва ходам конкурса арганізаваць пры Рэспубліканскім камітэце камісію садзейнічаньня конкурсу у наступным складзе: ад саюзу тав. Карпусенка (старшыня), ад рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Бел.“-тав. Гарбуноў і прадстаўнікоў: Белсаўгастрэсту, Сьвінаводканторы і Малочна масьлянага трэсту. Прапанаваць камісіі садзейнічаньня конкурсу 3-х дзённы тэрмін скласьці апэрацыйны плян сваёй работы.

л) Даручыць рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Беларусі“ у чарговым нумары апублікаваць гэту пастанову, палажэньне аб конкурсе, сьпіс конкурсных прэмій і шырока разгарнуць работу па ходзе конкурсу.

Старшыня Рэсп. Кам. Саюзу Р. Ж. С.

**Манжалей.**

## ПАЛАЖЭНЬНЕ

### аб конкурсе на лепшага старшага рабочага вядучай прафэсіі і рабочага ўдарніка.

Конкурс ставіць сваёй мэтай наступныя асноўныя задачы:

1. Павышэньне прадукцыйнасьці працы.
2. Рашучае паляпшэньне догляду жывёлы і зьнішчэньне адыходу маладняка.
3. Зьніжэньне сабекошту прадукцыі і скарачэньне страт у саўгасе.
4. Павялічэньне таварнасьці (выкананьне і перавыкананьне плянаў здачы дзяржаве мяса, малака, масла і г. д.).
5. Чоткая арганізацыя працы і правільнае разьмяркаваньне сіл унутры цэху і брыгады.
6. Лепшае правядзеньне зьдзельна-прэміяльнай аплаты працы і чоткая пастаноўка ўліку.
7. Павышэньне тэхнічнай кваліфікацыі старшага сьвінара, даяркі, скотніка, птушкавода і майстраў вядучых прафэсый
8. Палепшаньне культурна—бытавых умоў рабочых (сталоўкі, жыльлёвыя будынкі, клюбы і г. д.)
9. Выкананьне і перавыкананьне плянаў сенаўборкі, сіласаваньня і ўзорная падрыхтоўка да зімоўкі жывёлы.
10. Правільная арганізацыя выпасаў, у прыватнасьці начных.

Уключэньне саўгасаў у конкурс утвараецца па пастановах сходаў ударных брыгад, рабачкомаў і агульных сходаў рабочых.

Рабачкомы высоўваюць лепшых ударнікаў—кандыдатаў на усесаюзнае спаборніцтва, абгаварваюць кандыдатуры на сходах і ў нізавым друку і утвараюць прэміяваньне іх з мясцовых фондаў.

Па сканчэньні конкурсу склікаюцца агульна—саўгаскія сходы ўдарнікаў, на якіх будуць абгаварвацца высунутыя кандыдатуры на Ўсесаюзны конкурс.

У лістападзе месяцы ў Маскве склікаецца ўсесаюзны зьлёт ударнікаў, якія прэміяваны цэнтральнай конкурснай камісіяй.

## ПРЭМІІ.

Для прэміяваньня старшых рабочых вядучых прафэсый ЦК саюзу рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў устанавіў прэміяльны фонд у разьмеры 100 тыс. рублёў. Прэміі ўстаноўлены наступныя:

1. Вытворчая камандыроўка за мяжу і шасьцітомнік твораў Леніна.
2. 20 прэмій—іменных гадзіньнікаў, каштоўнасьцю па 100 р. кожны.
3. 25 прэмій—камплект вопраткі (паліто, касьцюмы) кожны камплект па 200 рублёў.
4. 5 камандзіровак у с. г. ВУЗы са стыпэндыяй 150 руб. у месяц на кожнага студэнта на ўвесь час вучобы і па адным камплекце твораў Леніна.
5. 5 камандыровак у с. г. тэхнікумы са стыпэндыяй 100 руб. у месяц на кожнага студэнта на ўвесь час вучобы і па адным камплекце твораў Леніна.
6. 20 камандыровак (10 вытворчых і 10 экскурсій) па новабудоўлях СССР.
7. 15 камандыровак у с. г. рабфакі са стыпэндыяй 70 руб. у месяц на кожнага студэнта на увесь час вучобы.
8. 20 вэлёсыпэдаў па 200 руб. кожны
9. 30 камплектаў радыё—прыёмнікаў па 150 руб кожны.
10. 10 штук гармоній па 200 р. кожны.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў аб мерапрыемствах па далейшым палепшаньні сацыяльна-бытавых умоў рабочых саўгасаў.

*Ад 9/IX 1931 г*

Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў адзначае:

1) Што забесьпячэньне рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў прамтаварамі, а таксама прадуктамі харчаваньня пастаўлена зусім дрэнна. Не гледзячы на шэраг пастаноў дырэктыўных і ўрадавых органаў аб палепшаньні абслугоўваньня рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, усёж да гэтага часу БКСаюз не пераключыўся на лепшае абслугоўваньне рабочых саўгасаў.

а) Прызначаныя прамтавары на сенауборачную і ўборачную кампаніі на 253.000 руб. сваечасова ня былі разнараджаны і адгружаны саўгасам, плянавае забесьпячэньне прамтаварамі яшчэ да гэтага часу не дэфэрэнцыруецца па саўгаўскіх сыстэмах, ад чаго значная частка прамтавараў не даходзіць да саўгасаў, а каапэрацыяй скарыстоўваецца не па прызначэньні.

б) Разнарадкі спушчаюцца ў раёны са значным спазьненьнем, асартымэнты тавараў не адпавядаюць запатрабаваньням рабочых саўгасаў, ў выніку чаго, як правіла, рабочыя не атрымліваюць тавараў па устаноўленых нормах.

2) Грамадзкае харчаваньне рабочых саўгасаў пастаўлена зусім дрэнна. Рабочыя не забясьпечваюцца тымі нормамі прадуктаў харчаваньня, якія ўстаноўлены Наркамснабам, Белхарчам, а таксама і райспажыўсаюзы ня выконваюць пастановы дырэктыўных і ўрадавых органаў у сэнсе забесьпячэньня саўгаскіх рабочых прадуктамі харчаваньня. Дырэкцыя трэстаб'ядненьняў таксама не дастаткова займалася іх палепшаньнем сацбытавых умоў рабочых саўгасаў. Рабачкомы і дырэктары ў вялікай большасьці саўгасаў зусім не зварочвалі ўвагі на грамадзкае харчаваньне. Сталоўкі не забясьпечаны інвентаром, няма катлоў, ложак, відэльцаў (ёсьць такія зьявішчы, калі рабочыя стаяць ў чарзе за ложкамі і міскамі). Кошт харчаваньня ў шмат якіх саўгасах надзвычайна высокі у сярэднім 65—70 кап. у дзень, што перашкаджае ўцягненьню сямейных рабочых у сталоўку і не дае магчымасьці аслабаніць поўнасьцю жанчын ад індывідуальных кухань і скарыстаньню іх поўнасьцю на вытварчасьці.

3) Дырэктыва Рэсп. К-ту саюзу аб арганізацыі грамадзкіх агародаў, сьвінаадкормачных пунктаў і мяса-малочных ферм пры сталоўках выконваецца вельмі марудна. З 200 саўгасаў толькі ў 48 саўгасах маюцца грамадзкія агароды на плошчы 148 га з ахопам 7.000 рабочых, якая можа толькі здаволіць 30% патрэбы, што зьяўляецца яўнай пагрозай к поўнаму забесьпячэньню рабочых саўгасаў агароднінай і бульбай. Адкормачныя пункты арганізаваны толькі ў 58 саўгасах, у якіх маецца 454 сьвіней, 39 кароў і 82 авечкі, якіх забіваюць без далейшага папаўненьня адкормачнікаў, што не дае магчымасьці плянамерна палепшаць грамадзкае харчаваньне. Малочных жа фэрм арганізавана толькі 3.

4) Ня гледзячы на пастанову Сакратарыяту ЦК КП/б/Б у лютым месяцы аб адчыненьні БКСаюзам ва ўсіх саўгасах зачыненых разьмяркаваценяў, а ў тых саўгасах, дзе налічваецца больш 200 сталых рабочых адчыніць рабкоопы, гэта дырэктыва Белкаапсаюзам ня выканана. БКСаюз адчыніў зачыненыя разьмяркаваценi па саўгасах Сьвінаводу 34, па БСтрэсту 22 і Рабкоопаў 14, а ўсяго 70 з агульнага ліку 200 саўгасаў.

5) Ход жылбудаўніцтва па саўгасах пастаўлены пад пагрозу зрыву. Па Белсаўгастрэсту на 1/IX плян жылбудаўніцтва выкананы па дамох на 58% і бараках на 26%. Па Белканторы Сьвінавод плян жылых дамоў выкананы на 23% баракаў на 25%. Па саўгасах Белмаслатрэсту жылбудаўніцтва амаль што не распачата. Рабочыя большасьці саўгасаў жывуць у дрэнных кватэрах (вільготных, цесных, разваленых), якія не адпавядаюць сапраўдным запатрэбаваньням згодна калдагавору, а 2553 рабочых зусім ня маюць ніякіх кватэр і жывуць па-за саўгасамі ў вакольных вёсках, што дрэнна адбіваецца на правядзеньні росту вытворчасьці і культурна-выхаваўчай працы сярод гэтых рабочых, ня спрыяе ўмовам па замацаваньні рабочых за саўгасамі, а наадварот стварае большую цякучасьць.

6) Значнай часткай дырэктараў саўгасаў несваечасова выплачваецца рабочым заработная плата (саўгас Камаровічы, Разульмова, Дзедлава-Пашкава, Рудабелка і г. д. ), у выніку чаго рабочыя не маглі выкупаць прызначаемых ім прамтавараў, гэтым самым не давалі магчымасьці рабочым правідлова рэалізаваць свой бюджэт.

Прызнаючы больш нецярпімым становішча ў сацыяльна-бытавым абслугоўваньні рабочых і спэцыялістаў саўгасаў Прэзыдыум ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Абавязаць усіх рабачкомаў і дырэктараў саўгасаў у штодзённай сваёй рабоце паставіць у цэнтр увагі пытаньні далейшага палепшаньня сацыяльна-бытавых умоў рабочых і спэцыялістаў нараўне з задачамі па выкананьні прамфінплянаў.

2) Рашуча патрабаваць ад Белсельбуду, дырэктараў трэстаў і саўгасаў фар-

сіраваць выкананьне праграм жыльлёвага будаўніцтва Устанавіць календарныя падэкадныя тэрміны будаўніцтва максымальна скарыстаць мясцовыя будаўнічыя матар,ялы і ўсю работу правесьці на такія ўдарныя тэмпы, каб непазьней 15-га лістапада закончыць поўнасьцю жыльлёвае будаўніцтва. Рабачкомам саўгасаў сумесна з дырэктарамі за раз жа разьмяркаваць будуючыяся кватэры і інтэрнаты за рабочымі і праз іх забясьпечыць дапамогу ў будаўніцтве і грамадзкі кантроль.

3) У мэтах палепшаньня грамадзкага харчаваньня ў саўгасах абвясьціць з 25-га верасьня па 25 е кастрычніка месячнік агляду грамадзкага харчаваньня ў саўгасах. Даручыць Сац. Быт. Сэктару Рэсп. К-ту саюзу ў 2-х дзённы тэрмін распрацаваць і разаслаць па саўгасах канкрэтную праграму гэтага месячніка.

4) Абавязаць усе рабачкомы і дырэктараў саўгасаў безадкладна прыступіць да загатоўкі і засолкі для саўгаскіх сталовак капусты, памідораў, гуркоў, фруктаў, бульбы і г. д. у такіх разьмерах, каб іх хапіла на ўвесь час для забесьпячэньня патрэб рабочых і ІТР саўгасаў.

Даручыць Сац. Бытавому Сэктару Рэсп. К-ту саюзу сумесна з трэстамі даць паказаньне саўгасам аб парадку і нормах выдачы бульбы з гародоў саўгасаў для сямейных рабочых, якія не ахоплены грамадзкім харчаваньнем.

5) Прапанаваць рабачкомам і дырэктарам саўгасаў узмоцнена разгарнуць работу па арганізацыі пры сталоўках сьвінаадкомачных пунктаў і мяса-малочных фэрм такімі тэмпамі, каб на 6 чал. сталуючыхся ў сярэднім у год была адкормлена адна сьвіня і на 10 чал. рабочых месц на ферме—адну карову. Для гэтай мэты кожны рабочы на добраахвотных пачатках павінен унесьці, прыкладна, 20—25 руб. мэтавы зваротны аванс, які паступова пагашаецца пры атрыманьні прадукцыі. Таксама паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі, каб на справу арганізацыі сьвінаадкормачнікаў і мясамалочных ферм было-б унесена спажывецкай капэрацыяй 1% ад гадавога яе звароту па гандлю ў саўгаскіх крамах і ½% ад валавога гадовага звароту кожнага трэсту ў саўгаскім разрэзе.



6) Рашуча патрабаваць ад Белкаапсаюзу, пачынаючы з 4 квартала 1931 г. выдзяленьня спэцыяльных фондаў прамтавараў для пераважнага забесьпячэньня ўдарнікаў саўгасаў (рабочых і ІТР). Сацбытавому сэктару Рэсп. К-ту саюзу своечасова сачыць за тым, каб Белкаапсаюзам усе разнарадкі на прамтаварах і прадуктах харчаваньня для саўгасаў папярэдне узгадняліся-б з саюзам і ў першую чаргу былі-б забясьпечаны тыя саўгасы, якія выконваюць прамфінпляны.

7) Патрэбаваць ад Белкаапсаюзу, каб не дададзеныя ў 3 квартале прамтавары і прадукты харчаваньня для рабочых саўгасаў поўнасьцю былі-б адгружаны ў 4 квартале г. г. зьверх плянаў.

8) Даручыць дырэктарам і ўпаўнаважаным трэстаў тэрмінова даць рашучае ўказаньне дырэктарам саўгасаў, каб не пазьней 1-га лістапада імі была поўнасьцю зьліквідавана запазычнасьць рабочым па зарплаце і ўперад выдаваць зарплату згодна тэрмінаў, установленых у калдагаворах. Рабачкомам прасачыць за выкананьнем гэтага не пазьней 5—7-га лістапада, аб выніках паведаміць Рэсп. К-т саюзу.

9) Улічваючы тое, што значная частка прамтавараў і прадуктаў харчаваньня накіраваная Белкаапсаюзам абязлічваецца, вельмі часта не даходзячы да рабочых саўгасаў, а застаецца ў райсаюзах і сельспа, альбо імі скарыстоўваецца на другія мэты (абмен на яйкі, масла і г. д.). Прэзыдыум ліча такую сыстэму забесьпячэньня зусім не правідловай і патрабуе ад Белкаапсаюзу правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) Пры Белкаапсаюзу арганізаваць дзьве групы—адну па забесьпячэньні саўгасаў прамтаварамі, а другую групу—па забесьпячэньні прадуктамі харчаваньня. Завесьці асобны вучот і завоз па саўгасах прамтавараў і прадуктаў харчаваньня.

б) У больш буйныя саўгасы прамтавары павінны завозіцца транзітам непасрэдна з фабрык па нарадах Белкаапсаюзу. Сьпіс гэтых саўгасаў устанавіць дадаткова з Белкаапсаюзам.

в) Усе зачыненыя размяркавацелі саўгасаў (крамы саўгаскія) прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня павінны

забясьпечвацца непасрэдна з баз Райсаюзу, мінуючы сельпо.

г) Усе рабкоопы, зачыненыя разьмяркаваццелі і сталоўкі саўгасаў да 1-га кастрычніка перавесьці на гаспадарчы разрахунак.

д) Белкаапсаюзу і Белкаапхарчу прыняць усе меры да забесьпячэньня сталовак саўгасаў неабходным інвентаром, а дырэктарам і рабачкомам саўгасаў да рамонту і абсталяваньня сталовак.

*Усім рабочкомам, дырэктарам жывёлагадоўчых саўгасаў і райспажыўсаюзам.*

## ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

На падставе праведзенага абсьледваньня раду саўгасаў, намі з усёй яскравасьцю ўстаноўлена, што пастанова ЦК УсеКП(б) і Цэнтрасаюзу аб палепшаньні грамадзкага харчаваньня не знайшла належнага адбітку ў саўгасах і яшчэ да гэтага часу ня стала баявой праграмай дзейнічаньня ў штодзённай працы рабачкомаў і дырэктараў. **Пытаньні карэннога і рашучага палепшаньня сацыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых саўгасаў ня сталі ў цэнтры ўвагі рабачкомаў і дырэктараў.** Грамадзкае харчаваньне ў--ва ўсіх саўгасах **пастаўлена з рук вон кепска.** Тут ёсьць дзьве асноўныя прычыны:

1) **Недапушчальна—безабразнае абслугоўваньне з боку каапэрацыі і**

2) **Вазмуціцельна—нядбайныя адносіны рабачкомаў і дырэктараў** да грамадзкага харчаваньня і **правы ініцыятывы** (арганізацыя сьвінаадкормачнікаў, мяса—малочных фэрм, гародаў, абсталяваньня, санітарныя ўмовы і г. д.). Грамадзкае харчаваньне ў саўгасах павінна быць зараз—жа пастаўлена на належнюю вышыню. **За дрэннае становішча сталоўкі адказваюць у першую чаргу рабачком і дырекцыя.** Для палепшаньня грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і зьнішчэньня, маючыхся нецярпімых недахопаў, мы вельмі просім Вас як мага хутчэй правесьці наступныя мерапрыёмствы:

1) З 25—га верасьня па 25—е кастрычніка г. г. ува ўсіх саўгасах правесьці месячнік агляду грамадзкага харчаваньня. Месячнік праводзіцца пад лёзунгам: „Рабачком, дырэкцыя, каапэрацыя тварам да грамадзкага харчаваньня ў саўгасах"! „Ні воднага рабочага ня ўдзельнічаючага ў праводзімым месячніку і палепшаньні працы сталоўкі„. „Сталоўка—цэх саўгасу". „Дадзём рабочым саўгасаў танны і смачны абед". „Ахопім на 100% рабочых грамадзкім харчаваньнем". „Барацьба за лепшыя санітарна—гігіенічныя ўмовы сталоўкі".

Да ўдзелу ў правядзеньні месячніку прыцягніце раённыя арганізацыі. Для кіраўніцтва месячнікам ува ўсіх саўгасах стварыце штабы—з прадстаўнікоў—рабачкому, дырэкцыі, каапэрацыі і партыйных і камсамольскіх арганізацый. Распрацуйце канкрэтныя апэрацыйныя пляны месячніку, шырока абгаварыце іх на сходах рабочых, у цэхах, вучастках, брыгадах. Усю працу па правядзеньні месячніку праводзіце з пункту погляду практычнай рэалізацыі адозвы ЦК і СНК аб палепшаньні грамадзкага харчаваньня ва ўмовах Вашага саўгасу. Неабходна максымальна разгарнуць мэтады сацыялістычнага спаборніцтва як паміж сталоўкамі, так і саўгасамі, вучасткамі, цэхамі і брыгадамі.

2) Прыйміце ўсе магчымыя меры і за кошт гаспадарнікаў адрамантуйце поўнасьцю памяшканьні сталовак, іх абсталяваньня і наогул прывядзеньня сталовак у належны выгляд.

3) Як мага хутчэй нарыхтуйце неабходную колькасьць паліва для сталовых з тым, каб ня было ні воднага выпадку зрыву ў працы кухні.

4) Зараз—жа прыступіць да збору тары і засолкі дастатковай колькасьці капусты, гуркоў, памідораў і г. д., а таксама і бульбы, каб у гэтых прадуктах сталоўка не адчувала дэфіцыту (недахопу).

5) Пераглядзіце склад каапэрацыйных і сталовых камісій, ажывіце іх сапраўдную працу.

6) Да 20-га кастрычніка перавядзіце ўсе сталоўкі на гаспадарчы разрахунак.

7) Прыміце меры да палепшаньня якасьці—абедаў, вячэр і сьнеданьняў. За кошт гаспадарчай ініцыятывы

увядзіце тры стравы; для гэтага нарыхтуйце і насушыце неабходную колькасьць фруктаў.

8) Узмацніце склад загадчыкаў сталоўкі лепшымі працаўнікамі з ліку ўдарнікаў каапэрацыйнага—актыву.

9) Устанавіце максымальную дапамогу ў перабудове працы спажывецкай каапэрацыі і рабочы кантроль над тым, каб вызначаныя для саўгаскіх рабочых прадукты, своечасова выдаваліся і правільна скарыстоўваліся.

10) Прыйміце меры да таго, каб у парадку ініцыятывы закупалася неабходная колькасьць дадатковых прадуктаў для сталоўкі.

11) Забясьпечце, каб ураджай грамадзкіх агародаў быў калектыўна зьняты і выкарыстоўваўся для грамадзкага харчаваньня ў сталовых.

12) Грошы сабраныя ў дзень індустрыялізацыі зараз—жа скарыстайце выключна на палепшаньне сацыяльна-бытавых умоў рабочых.

13) Для сапраўднага палепшаньня грамадзкага харчаваньня прыйміце рашучыя меры да таго, **каб да 15-га Кастрычніка ўва ўсіх саўгасах былі арганізаваны сьвінаадкормачныя пункты і мяса—малочныя рабочыя** фэрмы. У пасобных сьвінагадоўчых саўгасах, дзе па ўмовах гаспадаркі нельга арганізаваць рабочых сьвінаадкормачных пунктаў, **трэба шырока разгарнуць мяса-малочныя фэрмы. Дырэктары саўгасаў павінны прыняць за кошт гаспадаркі матар'яльны ўдзел у арганізацыі сьвіна—адкормачнікаў і малочных фэрм. Саўгасы павінны выдзяліць пэўную колькасьць кароў, сьвіней, альбо частку грошай на арганізацыю сьвінаадкормачнікаў і мяса—малочных фэрм.** Кожны рабочы павінен таксама ўнесьці ў некалькі тэрмінаў, прыкладна, 20—25 рублёў як мэтавы аванс на арганізацыю сьвінаадкормачных пунктаў і малочных фэрм. Гэтыя ўзносы паступова пагашаюцца пры атрыманьні імі прадукцыі з сьвінаадкормачнікаў і мяса—малочных фэрм. Ува ўсіх сьвіна—адкормачных пунктах абавязкова мець адпаведную колькасьць матак для прыплоду і папаўненьня сьвіного пагалоў'я

Неабходна паставіць задачу і дабіцца, каб на сьвінаадкормачніках было ня менш адной галавы ў год на кожныя 6 чалавек рабочых, а на мяса-малочных фэрмах адна галава на 10 рабочых.

Аб ходзе правядзеньня месячніку і канкрэтных выніках палепшаньня грамадзкага харчаваньня ў саўгасах, шырока асьвятляйце ў насьценгазэтах, цэнтральным друку і асабліва ў нашай газэце „Сельска—Гаспадарчы Рабочы Беларусі“. Шырока разгарніце сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Выклікайце на сацспаборніцтва суседнія саўгасы і каапэрацыйныя арганізацыі.

Пачынаючы з 10—га кастрычн. кожнай дэкады падрабязна інфармуйце Рэспубліканскі Камітэт аб выкананьні задач, пастаўленых гэтым лістом.

Старшыня Рэсп. К-ту **Манжелей.**

Упаўнаважаны канторы „Сьвінавод“ **Аўчыньнікаў.**

Белкаапсаюз **Рубэн.**

## ЧАСОВАЯ ІНСТРУКЦЫЯ

### аб рабоце арганізатараў па асобных галінах саюзнай работы.

Усе арганізатары для правядзеньня даручанай ім работы падбіраюць добраахвотнікаў, разьмяркоўваюць паміж імі работу і прадстаўляюць сьпіскі добраахвотнікаў на зацьверджаньне рабачкому

**Арганізатар па арганізацыйнай рабоце і масавых кампаніях праводзіць наступную работу.**

1. Арганізуе і дапамагае ў рабоце вучастковых і цэхавых камітэтаў ці груп арганізатараў.

а) Распрацоўвае пляны і правядзеньне перавыбараў нізовых прафорганаў саўгасу. Падрыхтоўвае скліканьне агульных сходаў, канфэрэнцый саўгасаў, а таксама выбары на саюзныя і міжсаюзныя зьезды і канфэрэнцыі.

б) Улічвае і разьмяркоўвае добраахвотніцкі актыў усяго рабачкому.

2. Арганізуе работу па ўцягненьні ў члены саюзу і прагледжвае паданыя заявы аб уступленьні ў саюз, выяўляючы сацыяльна-клясавае становішча падаўшых,

3. Кантралюе выкананьне рашэньняў рабачкомам агульных сходаў і канфэрэнцый.

4. Інфармацыйная работа ў саўгасах:

а) Кіруе інфармацыйна-статыстычнымі брыгадамі, якія работаюць па асобным палажэньні.

б) Складае сводкі па асноўных пытаньнях палітычнай, вытворчай і саюзнай работы.

5. Вывучае склад работаючых, распрацоўвае мерапрыемствы і арганізуе абслугоўваньне розных груп.

а) Новыя кадры рабочых.

б) Работа сярод сэзоньнікаў і будаўнікоў.

в) „ „ жанчын.

г) „ „ моладзі.

д) „ „ нацыяналаў.

6. Арганізоўвае і прапрацоўвае мерапрыемствы па палепшаньні работы Касы Ўзаемадапамогі.

7. Прапрацоўвае і праводзіць у жыцьцё дырэктывы вышэйстаячых арганізацый па ўсіх гаспадарча-палітычных кампаніях.

а) Вызначае плян прапрацоўкі і арганізоўвае правядзеньне.

б) Разьмяркоўвае добраахвотніцкі актыў для правядзеньня.

в) Вядзе вучот гэтай работы.

**Арганізатар па вытворчасьці і плянаваньні.**

1. Прапрацоўка вытворчых плянаў саўгасу, вучастка, групы. Арганізацыя сустрэчнага прамфінпляну і праверка яго выкананьня.

2. Распрацоўвае агульна-саўгаскі плян мерапрыемстваў і дапамагае вучастковым і цэхавым камітэтам па арганізацыі мас рабочых, спецыялістаў і служачых на выкананьне вытворчых заданьняў.

3. Вядзе кантроль за выкананьнем вытворчых заданьняў саўгасу, вучасткаў, груп і своечасовае прыняцьце мер да выпраўленьня ўзьнікаючых недахопаў.

4. Давядзеньне вытворчых заданьняў да вучастка, групы і асобнага рабочага па выкананьні праграмы, зьніжэньні сабекошту, дагляду за жывёлай.

5. Падрыхтоўвае і склікае вытворчыя нарады і канфэрэнцыі ў саўгасе.

6. Разгортвае работу па сацспаборніцтву і ударніцтву, а таксама вядзе сыстэматычны кантроль за своечасовым выкананьнем дагавароў па сацспаборніцтву і ўдарніцтву, рашэньняў вытворчых нарад і канфэрэнцый, правядзеньне ў жыцьцё прапаноў рабочых.

7. Кіруе работай і арганізуе дапамогу вынаходцам.

8. Арганізацыя і кіраўніцтва работай Часовымі Кантрольнымі Камісіямі (ЧКК).

9. Удзел у разьмяркаваньні фондаў па прэміраваньні за дасягненьні па сацспаборніцву, вынаходніцтву і г. д.

10. Вывучэньне становішча працыдысцыпліны і распрацоўка мерапрыемстваў па яе ўзмацненьні.

**Арганізатар па арганізацыі працы, тэхнармаваньні і зарплаце.**

1. Сумесна з гасорганамі распрацоўвае нормы выпрацоўкі і дапамагае вучастковаму камітэту па гэтым пытаньні.

2. Вывучае вытворчасьць працы ў саўгасе і становішча зарплаты, рэгулюючы гэту работу ў адпаведнасьці з калдагаворам і прамфінплянам.

3. Прапрацоўвае пытаньні правядзеньня зьдзельнай аплаты працы.

4. Арганізацыя і кіраўніцтва работай па абгаварэньні калдагавораў.

5. Праводзіць усю падрыхтоўчую работу па перазаключэньні калдагавору і наглядае за выкананьнем яго як двухбаковага абавязацельства.

6. Прапрацоўвае правілы ўнутранага распарадку, табелі ўзысканьняў. наглядае за выкананьнем КЗАП, ПВР і ТБ

7. Арганізуе таварыскія суды.

8. Удзельнічае ў рабоце агульназаводскага РКК па разбору ўсіх канфліктаў агульнасаўгаскага значэньня

9. Прапрацоўвае ў адпаведнасьці з дырэктывамі вышэйстаячых прафарганізацый, сыстэмы прэміраваньня за добрыя паказчыкі па сацспаборніцтву ударніцтву і вынаходніцтву.

**Арганізатар па кадрах.**

1. Арганізуе падрыхтоўку і наглядае за правідловым выкарыстаньнем прафкадраў:

а) уцягненьне рабочых ў гуркі праф. палітграматы і іншыя,

б) разьмяркаваньне скончыўшых гурткі і школы па галінах, парт., праф. гас. работы.

2. Праводзіць работу па стварэньні рэзэрву для вылучэньня, улічваючы прафактыў, актывістаў ударнікаў і г. д.;

арганізуе гурткі па падрыхтоўцы рэзэрву вылучэнцаў і вывучае склад; арганізуе масавае абгаварэньне кандыдатур на рабочых сходах, у друку і г. д.

3. Арганізуе курсы па падрыхтоўцы ў тэхнікумы, ВНУ, ВТНУ, рабфакі і г. д.

4. Распрацоўка сумесна з адміністрацыяй саўгасу плянаў патрэбы рабочай сілы і спосабаў масавай падрыхтоўкі яе. Контроль за прыемам і звальненьнем і рацыянальная растаноўка рабочай сілы.

5. Дапамагае арганізацыі, наглядае за праходжаньнем вучобы ў саўгасвучах.

6. Праводзіць работу (сумесна з адміністрацыяй) па запаўненьні броні падросткаў і вядзе строгі нагляд за іх падрыхтоўчай вучобай.

7. Арганізуе гурткі вынаходцаў, прыцягваючы інжынэрна-тэхнічныя сілы саўгасу.

8. Дапамагае студэнтам у праходжаньні практыкі ў саўгасах і выкарыстаньня іх па спэцыяльнасьці, арганізуючы для гэтай мэты студэнцкія бюро ў саўгасах.

**Арганізатар па культ. палітасьветрабоце**

1. Зьяўляецца старшынёй Культсавету саўгасу і работае на аснове асобната палажэньня аб культсаветах.

**Арганізатар па сацыяльна-бытавой рабоце**

1. Удзельнічае ў складаньні плянаў работ і распрацоўвае новыя мерапрыемствы па ахове працы і тэхніцы бясьпекі.

2. Наглядае за санітарным становішчам памяшканьняў, прадстаўленьнем водпускаў, за выкарыстаньнем скарочанага рабочага дня, каму гэта належыць, за выдачай спецвопраткі і спецабутку.

3. Праводзіць адбор у дамы адпачынку, санаторыі і курорты і г. д. з пасьлядоўным зацьверджаньнем рабачкому.

4. Контроль за выкананьнем прадпісаньняў інспэктара працы і грамадзкіх інспэктароў.

5. Нагляд за становішчам мэддапамогі ў саўгасе, за работай амбулаторыі, пунктаў першай дапамогі, па паляпшаньні мэддапамогі на вучастках, групах, хутарах і г. д.

6. работа па кіраўніцтву страхова а актыву.

г

7. Удзел у разьмяркаваньні сродкаў ФУБР'у і контроль за выдаткаваньнем.

8. Арганізацыя работы (разам з культсаветам) па санітарнай асьвеце.

9. Удзел у распрацоўцы плянаў і контроль па жылбудаўніцтву.

10. Вывучэньне прычын няшчасных выпадкаў і сваячасовае прыняцьце мер да іх папярэджаньня.

11. Работа па абслугоўваньні работніц яслямі, дзіц. пляцоўкамі і г. д.

**Арганізатар рабочага кантролю і дапамогі рабочаму забясьпячэньню каапэрацыі і грамадзкага харчаваньня.**

1. Кіраўніцтва работай каапбюро і каапактыва.

2. Уцягненьне ў члены каапэрацыі.

3. Арганізацыя работы па сваячасовым паступлень і паевых членскіх узносаў

4. Арганізацыі і дапамогі каапэрацыі:
а) разьвіцьцю агародніцтва;
б) малочных фэрм;
в) адкормачных пумктаў.

5. Сыстыматычны контроль і дапамога ў рабоце каапэрацыі, у частцы:
а) забесьпячэньня рабочых прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня;
б) захаваньня ўстаноўленых цэн і зьніжэньня накладных расходаў;
в) дапамогі ў разьвіцьці сеткі разьмяркавацеляў і г. д.

6. Кіраўніцтва і арганізацыя грамадзкага харчаваньня як на цэнтральнай сядзібе, так і на вучастках, у полі і г. д

**Арганізатар па калектывізацыі.**

1. Вывучэньне складу работаючых у саўгасах, зьвязаных з вёскай і сыстэматычная работа па растлумачэньні палітыкі партыі на вёсцы.

2. Работа па ўцягненьні ў калгасы работаючых зьвязаных з вёскай.

3. Арганізацыі дапамогі калгасам:
а) у правядзеньні калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы на гэтай базе;
б) правядзеньне гасп. палітычных кампаній (пасеўная, уборачная кампаніі, хлебазагатоўкі і інш.);
в) у складаньні вытворчых плянаў калгасам і абгаварваючы іх пляны на сумесных вытворчых нарадах, на спэцыяльна склікаемых канфэрэнцыях калгаснікаў пры саўгасах (пастанова ЦК УсеКП/б/ ад 30/XII—30 года).

г) Дапамога ў правільнай арганізацыі працы ў калгасе.

д) Падрыхтоўка калгасных кадраў (разам з арганіз. па кадрах).

е) Пашырэньне курсаў у саўгасах за кошт прыёму калгасьнікаў разгарнуць сетку агра-вытворчых і тэхнічных гурткоў (пастанова ЦК УсеКП/б/ ад 30/XII-30г.)

ж Арганізацыя сумесна з шэфобчаствам шэфства на калгасамі і асобнымі вёскамі.

**Скарбнік. Фінансавая работа.**

1. Складае каштарыс па выдатках агульнасаўгаскага рабачкому і адказвае за правільнае выдаткаваньне сродкаў.

2. Праверае пастаноўку фінансавай работы на вучастках і кіруе зборшчыкамі членскіх узносаў.

3. Правядзеньне растлумачальнай работы па саюзным фінансам.

4. Праверае і ставіць на зацьверджаньне рабачкому вучастковыя каштарысы і нагляд за правільным расходваньнем сродкаў, у межах зацьверджанага каштарысу.

5. Нагляд за правільнасьцю збора і выкарыстаньня сродкаў, адлічваемых рабачкомам на мэтавыя патрэбы (фонд індустрыялізацыі і г. д.)

6. Удзел у рабоце вучкамісій і дапамога ў разьмяркаваньні дзяржпазык і ашчаднасьці.

УВАГА: Работа скарбніка саўгасу і вучастку і зборшчыкаў.

**Арг. Інструктарскі Сэктар ЦК Саюзу Жывёлагадоўчых саўгасаў.**

## ТЫПОВЫЯ ПРАВІЛЫ

### ўнутранага распарадку ў саўгасах

#### I. Агульнае палажэньне.

1. Правілы ўнутранага распарадку і табель узысканьня маюць сваёй мэтай устанаўленьне ў саўгасе і працоўнага рэжыму, які павінен забясьпечыць:

а) Разьвіцьцё форм і мэтадаў сацыялістычнай арганізацыі працы і сацыялістычных суадносін да працы рабочага калектыву ў цэлым і кожнага асобнага яго члена (сацспаборніцтва, ударніцтва, скразныя брыгады, сустрэчныя прамфінпляны, грамадзкі буксір і г.д.

б) Нармальны ход работы саўгасу ў цэлым і асобных яго частак, узаемную ўвязку усіх работ на аснове гасразрахунку ў саўгасе.

в) Рацыянальнае скарыстаньне працы і дасягненьне найлепшых колькасных і асабліва якасных паказчыкаў работы.

г) Узмацненьне працдысцыпліны і замацаваньне сталых рабочых у саўгасе.

д) Узмацненьне саўгасаў на прынцыпах адзінаначальля.

е) Стварэньне найлепшых і найбольш здаровых умоў працы і быту.

2. Правілы ўнутранага распарадку абавязковы для ўсіх рабочых, спэцыялістаў і служачых саўгасу, у тым ліку і для адміністрацыі.

Усякае парушэньне ці не выкананьне правіл унутранага распарадку цягне за сабой накладаньне адпаведнага ўзысканьня, згодна прыкладаемай табел ўзысканьняў.

3. Ніхто з работнікаў саўгасу ня можа адгаварыцца няведаньнем гэтых правіл унутранага распарадку.

Адміністрацыя саўгасу павінна паклапаціцца азнаямленьнем усіх работнікаў саўгасу з гэтымі правіламі. Правілы павінны быць вывешаны на відных мясцох у дастатковай колькасьці.

#### II. Прыём на работу.

4. Прыём на работу вытвараецца дырэктарам саўгасу. Дырэктар саўгасу можа ўпаўнаважыць на прыём свайго памоцніка па адм. гасп. частцы і загадчыкаў вучасткамі, з захаваньнем парадку вярбоўкі рабочай сілы, устаноўленага дзейнічаючым заканадаўствам,

5. Адміністрацыя абавязана паведамляць рабачком аб надыходзячым найме работнікаў, а таксама аб фактычным прыёме іх на работу. Парадак і тэрміны прадстаўленьня гэтых зьвестак павінны адпавядаць інструкцыі НКП СССР ад 8/VII-29 г. („Извест. НКТ СССР 29 г. № 36).

6. Прыём на сталую работу афармляецца прыказам па саўгасу ці, калі права прыёму прадстаўлена заг. вучасткам, дык прыказам па вучастку.

Црыём на сезонную і часовую работу афармляецца ўнясеньнем у сьпіс за подпісам дырэктара ці асобы ўпаўнаважанай дырэктарам на прыём.

Прынятым на тэрмін звыш 6 дзён—выдаецца разьліковая кніжка.

### III. Узаемныя абавязкі адміністрацыі і работнікаў і працоўная дысцыпліна.

7. Кожны рабочы, спэцыяліст і служачы абавязан выконваць старэнна і добрасумленна ўсе абавязкі, якія ляжаць на ім як на вучастку сацыялістычнага будаўніцтва СССР і прадугледжаныя калектыўным дагаворам і правіламі ўнутранага распарадку, у прыватнасьці:

а) Сваечасова і дакладна выконваць даручаную яму работу.

б) Беражліва абыходзіцца з маёмасьцю саўгасу і ўтрымліваць яе ў поўнай спраўнасьці.

в) Захоўваць таварыскую вежлівасьць з адміністрацыяй і работнікамі.

г) Бязумоўна выконваць усе распараджэньні адміністрацыі, зьвязаныя з работай.

д) Бязумоўна забараняецца зьяўляцца на работу ў нецьвярозым выглядзе і расьпіцьцё сьпіртных напіткаў на месцы работы.

8. Кожны рабочы, спэцыяліст і служачы мае права як адзінаасобна, так і калектыўна ці праз прафарганізацыі, распрацоўваць і ўносіць прапановы аб рацыяналізацыі работы саўгасу, павялічэньня выпуску прадукцыі, падвышэньня яе якасьці, зьніжэньня сабекошту, аздараўленьня умоў працы і інш.

9. Адміністрацыя абавязана прымаць усе меры забясьпечваючыя:

а) Найбольш спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця і замацаваньня арганізуемых рабочымі, спэцыялістамі і служачымі сацыялістычных мэтадаў і форм працы.

б) Нармальны ход работ і дасягненьне найлепшых колькасных і асабліва якасных паказчыкаў работы, на аснове гасразрахунку.

в) Найлепшыя і найбольш здаровыя ўмовы працы і быту.

г) Сваечасовае і поўнае выкарыстаньне ўсіх прынятых адміністрацыяй вынаходстваў і карысных прапаноў вытворчых нарад, асобных работнікаў і груп іх.

10. Прымаючы ўсе неабходныя меры да забесьпячэньня ўсім работнікам лепшых і найбольш здаровых умоў працы і быту, адміністрацыя абавязана ўдзяляць асаблівую ўвагу рабочым, з вялікім вытворчым стажам, лепшым ударнікам і іншым асабліва каштоўным работнікам. Адміністрацыя абавязана ня толькі выконваць усе пастановы, маючыя мэтай палепшыць умовы іх працы і быту і садзейнічаць замацаваньню іх за саўгасам і распрацоўваць і праводзіць у жыцьцё па ўласнай ініцыятыве дадатковыя меры, якія дапамаглі-б узмацненьню сувязі гэтых работнікаў з саўгасам,

11. Не дапушчаецца наведваньне ў рабочы час амбуляторыі, сходаў, мітынгаў, пасяджэньняў і нарад, склікаемых усякага роду арганізацыямі, калі права наведваньня іх у рабочы час не устаноўлена законам ці спэцыяльнай згодай данай арганізацыі з дырэктарам саўгасу.

12. Працягласьць рабочага дня ўстанаўліваецца на восем гадзін для дарослых рабочых і 4 і 6 гадзін (згодна існуючага закону) для падросткаў. У перыяд напружаных работ (сеў, уборка, малацьба) рабочы дзень устанаўліваецца ў 10 гадзін з адпаведным зьменшаньнем вабочага часу і даплатай па КЗаП.

13. Пачатак і канец работ і перарывы ўстанаўліваюцца на месцы ў адпаведнасьці з характарам работы і з вучотам вытворчасьці і рацыянальнага скарыстаньня сталовай.

| №№ п. п. | Месца работы. | ЧАС (гадзіны) | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Пачатак работы | Перарывы | Канец работы |
| 1 | У канторы . . . . . . . . . | | | |
| 2 | На скотным двару . . . . . . . | | | |
| 3 | У рамонтнай майстэрні . . . . | | | |
| 4 | Па двару . . . . . . . . . . . | | | |

14. Пры зьменнай рабоце час пачатку і канца работы ўстанаўліваецца:

| | 1 зьмена | | 2 зьмена | | 3 зьмена | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пачатак | Канец | Пачатак | Канец | Пачатак | Канец |
| 1. Рамонтная майстэрня . . | | | | | | |
| 2. Трактарная . . . . . . | | | | | | |

15. Расклад графіку зьмен складаецца па ўзгадненьні з рабачкомам. Пэрсанальнае разьмяркаваньне работнікаў па групах, днях выхаду па зьменах вытвараецца адміністрацыяй.

Адміністрацыя мае права пры разьмяркаваньні па групах і зьменах дsystems даручыць работу на розных рабочых мясцох і рознай кваліфікацыі.

16, Перапынкі для прыняцьця яды ўстанаўліваюцца адміністрацыяй па ўзгадненьні з рабачкомам:

а) На вучастках у саўгасах і ў прадпрыёмствах работаючых непарыўна па чарзе без парушэньня ходу работы.

б) У іншых частках гаспадаркі ў адзін час для ўсіх работаючых, на малочных фэрмах у залежнасьці ад гадзін удою і рацыянальнага дагляду за жывёлай з захаваньнем арт. 27 КЗаП.

17. Пры бесьперапыннай кругласутачнай зьменнай рабоце час, патрачаны работнікамі на прыняцьце яды на месцы работы, залічваецца ў рабочы час, калі прыняцьце яды працягваецца ня больш 20 хвілін.

18, Зьверхурочныя работы дапушчаюцца толькі па разьмеркаваньні адміністрацыі, узгадненым з рабачкомам. Работнік не мае права адмовіцца выконваць распараджэньне адміністрацыі аб зьверхурочнай рабоце і калі гэта распараджэньне незаконнае, дык не спыняючы выкананьня, заяўляе ў рабачком.

19. Пры зьменных работах ніхто з работнікаў ня мае права адмовіцца ад работы ў зьмену, устаноўленую раскладам. Зьменяючыйся ня мае права застаўляць работу да прыходу зьменшчыка. У выпадку неяўкі зьменшчыка да пачатку работы новай зьмены, зьмяняючыйся работнік абавязан заявіць аб гэтым бліжайшаму кіраўніку, якому ён непасрэдна падпарадкаваны і бяз яго дазволу ня можа заставіць работу. Кіраўнік абавязан безадкладна прыняць меры да замены зьменшчыка другім работнікам.

20. Цяжарныя жанчыны, якія кормяць грудзьдзю і падросткі на работу ў начны час не дапушчаюцца.

Жанчыны, якія кормяць грудзьдзю адпушчаюцца для кармленьня дзяцей у гадзіны устаноўленыя ў кожным асобным выпадку, па ўзгадненьні адміністрацыі з рабачкомам.

21. Для дакладнага кантролю над рабочым часам у мясцох работ павінен мецца гадзіньнік. Акрамя таго, адказныя кіраўнікі масавых работ павінны быцьзабясьпечаны гадзіньнікамі.

**Яўка на работу і ўход з работы.**

22. Усе работнікі абавязаны зьяўляцца на работу і адыходзіць з яе ў дакладна ўстаноўлены час пачатку ці сканчэньня работы ці зьмены. Пры чым па сканчэньні работ усе інструманты, знаходзячыяся ў работнікаў павінны быць здаены вызначанай асобе (прызначанай адміністрацыяй).

23. Зьявіўшыйся на работу пасьля ўстаноўленага пачатку работ, лічыцца спазьніўшымся. Спазьніўшымся вядзецца асобная рэгістрацыя і яны дапушчаюцца да работы толькі з дазволу адміністрацыі.

У выпадку неабходнасьці адыйсьці з работы раней устаноўленага часу, работнік абавязан аб гэтым заявіць адміністрацыі і атрымаць пісьмовы дазвол (пропуск).

24. Калі работнік па ўважлівай прычыне ня можа зьявіцца на работу, ён павінен заявіць аб гэтым бліжайшаму кіраўніку напярэдадні. Калі-ж прычына ня выхада на работу зьяўляецца нечаканай ён павінен паведаміць аб сваім нявыхадзе адміністрацыю пры першай магчымасьці.

Безадкладна па выхадзе на работу работнік павінен прадставіць доказы

ўважлівасьці неяўкі. Пры непрадстаўленьні гэткага доказу, неяўка лічыцца прагулам і цягне за сабой узысканьне.

25. У саўгасе і на асобных вучастках (прадпрыёмствах) яго вывешваецца сьпіс адміністрацыйных асоб, якія маюць права дазваляць допуск да работы спазьніўшымся, а таксама водпуск з работы і неўку на работу па ўважлівых прычынах.

26. Аб пачатку, аб канцы і аб перапынках у рабоце ці аб замене адной зьмены другой—работнікі паведамляюць сыгналам (званок, гудок і інш.), першы сыгнал даецца за 10 хвілін да пачатку работ, а другі сыгнал у момант пачатку і канца работ. Сыгнал аб пачатку работ і сканчэньня іх даецца па гадзінах, устаноўленых у канторы саўгасу.

### IV Арганізацыя і выкананьне работ.

27. Адміністрацыя абавязана ў месцох работ вывешваць скрынкі для прапаноў работнікаў па паляпшэньні работы, а таксама аб'явы аб парадку прыёму і прасоўваньня прапаноў. У аб'явах паказваецца, хто з асоб адміністрацыі абавязан прымаць прапановы, даваць па іх парады (консультацыю), аказваць тэхнічную дапамогу па распрацоўцы прапаноў у аб'явах паказваецца таксама тэрмін і парадак разгляду прапаноў і праведзеньне іх у жыцьцё.

Не радзей аднаго разу ў месяц адміністрацыя вывешвае сьпісы паступіўшых прапаноў з паказаньнем, якія з іх прэміруюцца. Па адхіленых прапановах, паказваюцца прычыны, па якіх яны ня могуць быць рэалізаваны.

Адміністрацыя саўгасу абавязана давесьці прамфінплян да кожнага работніка саўгасу і асобных груп іх.

28. Для кожнага работніка саўгасу, адміністрацыя абавязана дакладна вызначаць яго абавязкі і каму ён непасрэдна падпарадкуецца. На кожную работу адміністрацыя саўгасу абавязана ўстанавіць нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі.

29. Усе работнікі саўгасу павінны акуратна і сваечасова выконваць ускладзеныя на іх абавязкі. Работнікі па абслугоўваньні жывелы абавязаны беражліва абыходзіцца з жывелай, не дапушчаючы пабояў.

У выпадку недавольства распараджэньнем адміністрацыі ці нормай выпрацоўкі і расцэнкай, работнік не адмаўляючыся ад работы, павінен зьвяртацца з заявай у рабачком ці РКК.

30. Калі работнік, у выпадку паломкі машыны, несправунасьці ўпражкі, непагоды і інш.—мае слабодны час, адміністрацыя мае права накіраваць рабочага на другую работу.

31. Пры пачатку работ, кожны работнік абавязан ўважліва аглядаць і праверацьпрыгоднасьць атрыманага для работы інвентара і аб усіх заўважаных несправунасьцях паведаміць кіраўніку работ.

Работнікі ў арудзьдзяў і машын абавязаны сачыць за становішчам і справунасьцю гэткіх, па сканчэньні работы прыводзіць уадпаведны парадак і зьбіраць ва ўстаноўленае месца.

За псаваньне ці паломку трактараў і сельгасмашын, калі порча ці паломка выклікана злачынна-нядбайнымі адносінамі да гэтай маёмасьці вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

32. Адміністрацыя абавязана забясьпечыць пільны кантроль за ўсімі работамі, за якасьцю дагляду за жывёлай, палявых работ, здаваемых малочных прадуктаў, прадуктаў палеводства пасьля ўборкі і г. д.

33. Нарады на работы павінны давацца напярэданьні старшаму рабочаму, а апошні даводзіць яго да кожнай брыгады ці асобнага рабочага. У нарадзе павінна быць паказана тэрмін, месца і колькасьць работ, зьдзельны расцэнак, нормы выпрацоўкі і г. д.

34. У тым выпадку, калі пры выкананьні работы выявіцца брак, адзначаецца час, патрачаны на вытворчасьць брака, характар і прычыны брака.

Брак, дапушчаны па віне работніка не аплачваецца.

Калі брак утварыўся не па віне рабочага, а ў зьвязку несправунасьці машыны, ці ў зьвязку з недобраякасьцю матар'ялаў і прылад, рабочы абавязан безадкладна па выяўленьні ім брака ў час работ, паведаміць аб гэтым бліжэйшаму кіраўніку работ (брыгадзіру, старшаму трактарысту, інспектару, мэханіку і г. д.).

У апошнім выпадку брак і час, патрачаны для выяўленьня і выпраўленьня несправунасьцяў, якія пацягнулі брак аплачваецца па сярэднім заработку.

Калі рабочы выявіць брак і працягвае работаць, то брак не аплачваецца

рабочы падвергаецц ўзысканьню, згодна табелю ўзысканьняў.

35. Работнікі абавязаны захоўваць устаноўлены парадак носкі і хаваньня спэцвопраткі і прасьцярагаючых прылад. Забараняецца перадаваць іх другім асобам і ўносіць з сабой без дазволу адміністрацыі.

Мыцьцё і папраўка спэцвопраткі вытвараецца за кошт гаспадаркі. Парадак носкі і мыцьця спэцвопраткі ўстанаўліваецца адміністрацыяй па ўзгадненьні з рабачкомам.

36. Адміністрацыя і работнікі саўгасаў абавязаны строга захоўваць устаноўленыя правілы бясьпекі пры рабоце на машынах.

Ва ўсіх мясцох, небясьпечных для жыцьця і здароўя работнікаў вывешваюцца адпаведныя папярэджваючыя і растлумачальныя надпісы. Правілы аб тэхніцы бясьпекі вывешваюцца ва ўсіх асобных мясцох, дзе вытвараецца даная работа.

Усякі ўноў паступаючы работнік павінен быць азнаёмлены адміністрацыяй з правіламі бясьпекі на атрымоўваемай ім рабоце.

Нагляд і адказнасьць за правільную пастаноўку тэхнікі бясьпекі ўскладаецца:

а) па майстэрні на т. . . . . . . .

б) па трактарным парку на т. . . . .

в) . . . . . . . . . . . . . . . .

37. Адміністрацыя абавязана мець у саўгасе і на кожным вучастку ў майстэрні, пры трактарнай калёне і ў другіх мясцох работ—хатнюю аптэчку для аказаньня першай мэддапамогі.

Машыністы, камбайоры і трактарысты павінны быць забясьпечаны індывідуальнымі пакетамі першай мэддапамогі.

У выпадку калецтва ці параненьня работніка, адміністрацыя абавязана безадкладна аказаць першую дапамогу, накіроўваючы пацерпеўшага ў бліжэйшы мэдпункт.

38. Адказнасьць за правядзеньне і захаваньне проціпажарных мер па саўгасу ляжыць на адміністрацыі, і ў кватэрах на пражываючых у іх.

39. У саўгасе павінна знаходзіцца пажарная машына, абоз, вогнегасіцелі і проціпажарны інвентар, а таксама павінна быць арганізована дружына з рабочых і служачых саўгасу.

40. Каб унікнуць пажара забараняецца:

а) курыць ва ўсіх мясцох, дзе маюцца недалёка лёгкавспламеняючыяся гаручыя матар'ялы (адміністрацыя ў гэтых мясцох павінна вывесіць надпісы).

б) Разводзіць вогнішча паблізку абор, ськірдаў, жылых дамоў, у лесе і г. д.

в) Разводзіць самавары і прымусы ў сенях, агульных калідорах і др. памяшканьнях, дзе адсутнічаюць прылады для адводу дыма.

г) Гаручае (бэнзын, нафта і інш.) павінны хавацца ў спэцыяльных ізаляваных памяшканьнях.

41. У выпадку паводкі ці ўзьнікненьня пажару, у саўгасе ці паблізку яго, усе рабочыя і служачыя павінны прымаць меры да спыненьня ці предасьцярогі пагражаючай саўгасу небясьпекі.

## Жыльлёва-бытавыя ўмовы.

42. Усе жылыя памяшканьні разьмяркоўвае адміністрацыя саўгасу, па ўзгадненьні з рабачкомам. У першую чаргу кватэрамі (асабліва ў новых дамах) забясьпечваюцца рабочыя, спэцыялісты і служачыя, ўдарнікі і ўдзельнікі сацспаборніцтва.

Усе распараджэньні адміністрацыі аб аслабаненьні і перамяшчэньні іх кватэр і ўтрыманьня жылёвых памяшканьняў ў адпаведным парадку абавязкавы для ўсіх жывучых у кватэрах саўгасу. У інтэрнатах павінны быць вывешаны правілы карыстаньня інтэрнатамі і захаваньня ў іх гігіены і санітарыі.

43. Кватэры, агульныя калідоры, кухні і лесьніцы ўбіраюцца і ўтрымоўваюцца ў чыстаце самімі жыльцамі. Жыльцы нясуць адказнасьць за захаваньне кватэры і яе абсталяваньня.

44. Адміністрацыя абавязана поўнасьцю забясьпечыць піцьцёвай вадой работаючых ва ўсіх мясцох работы. Пры чым трактарыстам і іншым рабочым перасовачных машын павінны быць выданы індывідуальныя фляжкі. Рабочыя саксама павінны быць забясьпечаны гатаванай вадой.

## Правілы санітарыі і гігіены.

45. Усе работнікі саўгасу абавязаны падвяргацца мэдычнаму агляду ня менш 3-х разоў у год.

Даяркі, а таксама рабочыя, занятыя прыгатаваньнем яды, абслугоўваньнем сталовых, кухань і малочных абавязаны праходзіць мэдычны агляд кожны месяц.

46. Усім рабочым павінна быць прадстаўлена лазьня не радзей аднаго разу ў 7 дзён. Правілы і час карыстаньня лазьняй асобных груп рабочых устанаўліваюцца адміністрацыяй саўгасу.

47. У мэтах папярэджаньня эпідэмічных захворваньняў і захаваньня санітарыі і гігіены, усе работнікі саўгасу абавязаны аб усіх захворваньнях ў сям'і безадкладна паведаміць адміністрацыі для выкліку ўрача.

48. Для карыстаньня рабочых пры ўсіх рабочых памяшканьнях і інтэрнатах і трактарных калёнах павінны быць зроблены ўмывальнікі і бакі для гатаванай вады.

Для мыцьця рук трактарыстаў і рабочых рам. майстэрняў (пасьля іх зьмены) адміністрацыя абавязана забясьпечыць, каб ва ўмывальніках была гарачая вада.

### Выплата зарплаты.

49. Выплата зарплаты вытвараецца . . . . . . . . . . кожнага месяца. За . . . . . . дзён да выплаты зарплаты, рабочыя абавязаны здаваць разліковыя кніжкі ў кантору саўгасу

Рабочы, згубіўшы разліковую кніжку, павінен безадкладна паведаміц кантору, саўгасу аб згубе для атрыманьня новай кніжкі.

### Час адпачынку.

50. Расклад водпускаў рабочых і служачых саўгасу распрацоўваецца адміністрацыяй, зацьверджаецца РКК і абвешчаецца шляхам вывешваньня сьпіскаў.

Работнікі, жадаючыя перамяніць тэрмін водпуску, падаюць адпаведную заяву адміністрацыі.

Водпускі разьмяркоўваюцца ў працягу ўсяго года з такім разлікам, каб была забясьпечана правільная і бесьперабойная работа саўгасу ў працягу ўсяго году.

На аснове гэтых тыповых правіл, у кожным саўгасе распрацоўваюцца свае правілы ўнутранага роспарадку, дапасавана да ўмоў работы.

Правілы зацьверджаюцца РКК і інспэктарам працы, пасьля чаго маюць моц закону.

## ПАСТАНОВА

### Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб палепшаньні бытавых умоў інжынэрна-тэхнічных работнікаў.

Цэнтральны выканаўчы камітэт і Савет Народных камісараў Саюзу ССР пастанаўляюць:

1. Дзеці інжынэрна-тэхнічных работнікаў прымаюцца ў навучальныя установы нараўне з дзяцьмі індустрыяльных рабочых,

У тых выпадках, калі для рабочых і іх дзяцей устаноўлены мінімальны процант абавязкавага прыёму ў навучальныя ўстановы, дзеці інжынэрна-тэхнічных работнікаў уключаюцца ў норму, устаноўленную для прыема рабочых і іх дзяцей.

2. Месцы ў дамох адпачынку і санаторыях прадстаўляюцца інжынэрна-тэхнічным работнікам нараўне з індустрыяльнымі рабочымі.

3. Інжынэрна-тэхнічным работнікам страховая дапамога па часавой непрацаздольнасьці выдаецца на падставах, устаноўленых для індустрыяльных рабочых.

4. У адносіне забесьпячэньня прадметамі спажываньня інжэнерна-тэхнічныя работнікі і іх сем'і прыраўніваюцца да індустрыяльных рабочых.

5. Пры пераводзе інжынэрна-тэхнічных работнікаў у мэтах ўзмацненьня тэхнічнага кіраўніцтва вышэйшых зьвеньняў кіраўніцтва з вытворчасьці на работу ва ўстановы, зьніжэньне аплаты не дапушчаецца-

6. Інжынэрна-тэхнічныя работнікі абкладываюцца падаходным падаткам па іх заработнай плаце, пачынаючы са стаўкі звыш 500 рублёў у месяц, не прагрэсіўна, а прапорцыянальна, у разьмеры 3,5 проц., атрымліваемага імі ўтрыманьня.

7. Інжынэрна-тэхнічныя работнікі прыраўніваюцца ў адносіне права на атрыманьне жылой плошчы да індустрыяльных рабочых.

Выходзячы з неабходнасьці забясьпечыць спэцыялістам спрыяючыя ўмовы

для работы дома, у прыватнасьці па павышэньні сваёй кваліфікацыі, інжынэрна-тэхнічным работнікам прадстаўляецца права на дадатковую плошчу нараўне з адказнымі работнікамі.

8. Жыльлёва-будаўнічыя каапэратывы інжынэрна-тэхнічных работнікаў прыраўніваюцца ва ўсіх адносінах да жыльлёва-будаўнічых каапэратываў з пераважным рабочым складам.

9. Гэта пастанова распаўсюджваецца на інжынэрна-тэхнічных работнікаў занятых як на прадпрыемствах, так і ўстановах.

Старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэту Саюзу ССР **М. Калінін.**

Старшыня Савету народных камісससараў Саюзу ССР **М. Молатаў (Скрабін)**

Сакратар Цэнтральнага выканаўчага камітэту Саюзу ССР **А. Енукідзе**

Масква, Крэмль, 1 жніўня 1931 г.

## АБ ІЛЬГОТАХ ДЛЯ ІНЖЫНЭРНА-ТЭХНІЧНЫХ РАБОТНІКАЎ.

### Пастанова Народнага Камісарыяту Працы Саюзу ССР.

У адпаведнасьці з пастановай ЦВК і СНК СССР ад 1-га жніўня 1931 г. аб палепшаньні бытавых умоў інжынэрна-тэхнічных работнікаў (Збор. зак. СССР 1931 г. № 48, арт. 322) НКП СССР пастанаўляе:

1. Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 1-га жніўня 1931 г. распаўсюджваецца на ўсе катэгорыі інжынэрна-тэхнічных работнікаў, занятых ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, якія састаяць членамі інжынэрна-тэхнічных сэкцый усіх прафсаюзаў (інжынэраў, тэхнікаў, майстраў і іх памоцнікаў, дзесятнікаў, аграномаў, лесаводаў, землеупарадкваццеляў, заотэхнікаў, жывёлаводаў і выконваючых вытворча-тэхнічную работу эканамістаў).

2. Льготы прадстаўляюцца інжынэрна-тэхнічным работнікам як занятым у прадпрыемствах, саўгасах, МТС у калгасах, так і занятых ва ўстановах.

3. Льготы прадстаўляюцца інжынэрна-тэхнічным работнікам як маючым спэцыяльную адукацыю, так і набыўшым патрабуемыя тэхнічныя веды на практычнай рабоце.

4. Пэрсанальны сьпіс работнікаў, падпадаючых пад дзейнічаньне пастановы ЦВК і СНК СССР ад 1-га жніўня 1931 г., складаецца адміністрацыяй прадпрыемства і ўстановы сумесна з прафарганізацыяй (фабзаўкомам, мясцкомам і г. д.).

Спрэчныя пытаньні разьвязваюцца мясцовымі органамі працы.

5. Льготы прадстаўляюцца па прадстаўленьні даведак, выдаваемых адміністрацыяй прадпрыемства ці ўстановы.

Народны Камісар Працы СССР **(Ціхон)**

Член Калегіі НКП СССР **(Бранденбурскі)**

ЦК САЮЗУ
РАБОЧЫХ ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫХ
САЎГАСАЎ СССР

№ 301 (001) Гр.

*Адбітак.*

**Усім Рэспубліканскім, Краевым, Вобласным Камітэтам саюзу жывёлагадоўчых саўгасаў.**

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

У сучасны момант праводзіцца распрацоўка генэральнага пляна электрафікацыі СССР. Значаньне складаньня генэральнага пляну элекрафікацыі як асновы нашага народна-гаспадарчага пляну СССР патрабуе мабілізацыі шырачэйшых мас на гэту справу.

Грандыёзнае разгортваньне буйнай сацыялістычнай жывёлагадоўлі (саўгасы і калгасы), побач з прымяненьнем каня і трактара ў сельскай гаспадарцы ў сучасны момант мае ўсе прадпасылкі для электрафікацыі працэсаў вытворчасьці жывёлагадоўчых саўгасаў.

Таму генеральны плян элекрафікацыі павінен выходзіць з суцэльнай электрафікацыі буйнай сацыялістычнай жывёлагадоўлі ва ўсіх аснаўных працэсах ад кормаздабываньня да распрацоўкі прадукцыі.

У мэтах уцягненьня шырачэйшых мас у складаньне генэральнага пляну электрафікацыі. збору і распрацоўкі індывідуальных і групавых прапаноў, ЦК саюзу прапануе ўсім трэстам і рабачкомам:

а) Арганізаваць ва ўсіх саўгасах плянавыя брыгады па электрафікацыі ў складзе члена рабочага камітэту, рабочых актывістаў ударнікаў, спэцыялістаў і прадстаўнікоў дырэкцыі саўгасу.

У задачу брыгады ўваходзіць збор і распрацоўкя прапаноў, пасьля чаго ўсе прапановы абгаварваюцца на вытворчых нарадах, скотнага двара, сьвінарніка, майстэрняў, вучастках і агульна саўгаскага.

Уся работа праводзіцца пад кіраўніцтвам рабочага камітэту.

б) На агульных сходах рабочых і служачых саўгасу паставіць даклады аб значаньні пляну элекрафікацыі і ўдзеле ў ім рабочых.

в) Крайоблкамітэтам правесьці сходы спэцыялістаў з пастаноўкай даклада аб генэральным пляне электрафікацыі і электрафікацыі жывёлаводчых саўгасаў.

г) Безадкладна зьвязацца з плянавымі арганізацыямі (рабачкомамі з районнымі і крайоблкамітэтамі з вобласным, выкарыстоўваючы работнікаў для прапрацоўкі матар'ялаў і дакладаў, а галоўнае актыўна дапамагаць пляніруючым арганізацыям у іх рабоце па складаньні генпляна.

## Пры распрацоўцы генпляну электрафікацыі неабходна выходзіць:

### 1. У галіне вышуканьня энэргетычных крыніц.

а) Магчымасьць электрафікацыі працэсаў вытворчасьці ў саўгасе шляхам далучэньня да сеткі райённай электрафікацыі.

б) Магчымасьць пабудовы электрастанцыі пры наліччы мясцовых крыніц паліва, выкарыстоўваючы для гэтага мясцовыя торфы і с. г. лясныя адходы, а для гідро-электрастанцый крыніцы вод (рэкі).

Магчымасьць выкарыстаньня мясцовага будаўнічага матар'ялу для пабудовы і абсталяваньня электрастанцыі і сэткі (цэгла і інш. матар'ял).

### 2. У галіне дапасаваньня электраэнэргіі.

Прапрацаваць магчымасьць і формы дапасаваньня электраэнэргіі ў вытворчых працэсах.

1. Водазабесьпячэньне.
2. Унутры—гаспадарчы транспарт.
3. Прыгатаваньне кармоў і сіласаваньне.
4. Падаграваньне вады.
5. Запарка кармоў.
6. Дойка на скотных дварах і на пасьбішчах.
7. Дагляд за жывёлай (чыстка і інш.).
8. Стэрыалізацыя малака.
9. Ахалоджаньне малака.
10. Вэнтыляцыя памяшканьняў.
11. Апал памяшканьняў.
12. Асьвятленьне сталае і дзяжурнае.
13. Адкачка жыжы.
14. Сартыроўка насеньня і карань-клубнеплодаў.
15. Апрацоўка глебы.

16. Пасеў.

17. Дагляд і уборка кораньклубнеплодаў.

18. Малацьба.

19. Майстэрні.

20. Стрыжка авечак.

21. Дапасаваньне электрычнасьці для высадкі цыплят.

Вам не патрабуецца вылічваць патрэбу ў электраэнэргіі (для гэтага прыцягвайце калі ёсьць магчымасьць, спэцыялістых электрыкаў, а Вам неабходна выявіць магчымасьць дапасаваньня электрафікацыі ў тым ці іншым працэсе вытворчасьці і пэрэспэктыве на бліжэйшы час грузаабарот у саўгасе, удоі, патрэбу ў цягавай сіле і г. д., па ўсіх працэсах належачых да электрафікацыі.

Пытаньні электрафікацыі саўгасаў неабходна асьвяліць у друку — насьценных раённых і абласных газэтах.

Увесь матар'ял саўгасаў накіроўваць у раённыя плянавыя арганізацыі і Крайаблкамітэты саюзу.

Рэспубліканск'я, краевыя і вобласныя камітэты атрыманы ад саўгасаў матар'ял прапрацаваць іх з гаспадарчымі арганізацыямі—перадаюцца у адпаведныя плянавыя арганізацыі, а таксама накіроўваць зводку матар'ялаў у ЦК саюзу к15/X-31 г.

Работа па прапрацоўцы пляну павінна працагвацца пасьля 15/X—1931 г. на аснове матар'ялаў, якія дадзены плянірующымі арганізацыямі.

Старшыня ЦК саюзу РЖС. **Грыгор'еў.**

Вык. Абав. Сэктару Вытворчасьці і плянаваньня **Пятрухін.**

Згодна:

Адк. Сакратар Рэсп. К-ту саюзу. **Краўчанка.**

## ПАПРАЎКА.

У бюлетэні № 4 ад 5 верасьня у дырэкцыйным лісту дырэктарам саўгасам і рабачкомам укралася памылка на 3 старонцы ў 4 і 5 радкох надрукавана: Сьвінавод па БССР павінен давесьці ў гэтым годзе зямельную тэрыторыю да 35.000 га, мець ня менш 10.000 га пахаці, трэба чытаць: агульную зямельную плошчу ў 1932 г. у саўгасах „Сьвінавод“ давесьці да 135.000 га у тым ліку пахаці 92.000 га.

**Выдавецтва Бел. Рэсп. К-т Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў.**

Адказны рэдактар **Маслава.**
Намесьнік **Карпусенка.**





Галоўлітбел № 2877. Заказ № 651—350 экз. Друк. Менспраўдому